## Альбэртын

### АЛЬБЭРТЫН — СЯЛІБА ВАЛАСНОЕ ЎПРАВЫ І ЎЗГАДАВАЛЬНАГА АСЯРОДЗЬДЗЯ СБМ

Сп. Гэнэральны Камісар у сваім апошнім падарожжы наведаў мястэчка Аьбэртын. Тут ён быў спатканы дэлегацыяй сялянаў на чале з валасным старшынёю — з традыцыйным беларускім хлебам і соляй.

Прыняўшы рапарт ад мясцовых дружынаў юначак і юнакоў СБМ, сп. Гэнэральны Камісар аглядаў памешканьні Валасное Ўправы, Самапомачы і чытальні, а пасьля доўга гутарыў з малодшымі юнакамі.

На агледзінах мясцовае паперні і прыняцьці рапарту ад ушыхтованага аддзелу флямандзкіх дабраахвотнікаў сп. Гэнэральны Камісар падаўся ў юнацкі ўзгадавальны асяродак СМБ, дзе да вечару знаёміўся з жыцьцём беларускага юнацтва.

...•Аж ня верыцца, што злая доля наканавала гэтым наведзінам стацца апошнімі...

Н—у.

## Слонім

10 кастрычніка, у нядзелю, адбылося ў Слоніме ўрачыстае зачыненьне агульнагаспадарчае выстаўкі. Выстаўка трывала 8 дзён, і была наведана больш 5.000 наведвальнікамі.

Падчас урачыстага зачыненьня выстаўкі адбыўся разьвітальны канцэрт мастацкае самадзейнасьці з Альбэртыну, у якім прынялі ўдзел хор і музычны гурток.

## Жыровічы

Пасьля доўгага летняга перапынку, у нядзелю, 10 кастрычніка адбыўся выступ гурткоў мастацкае самадзейнасьці.

Драматычным гуртком была пастаўлена п'еса «Жанімства праз радыё», пасьля чаго танцавальны гурток пры Беларускім Народным Доме выступіў з паказамі нацыянальных танцаў.

Побач гурткоў дарослых самадзейнікаў, у выступе таксама прыймалі ўдзел і дзеці мясцовае школы (танцы).

## Дабрамысль

»Арганізацыя« юнацтва ў «Саюзе Беларускай моладзі», ахапіўшая ўсю Слонімскую Акругу, дакацілася і ў самы глухі кут акругі. Дабрамысьль — слаўны сваім стойкім змаганьнем з ваколічнымі бандамі, каліcь прабаваўшымі нападаць на аселішчы Дабрамыскай воласьці. Сяньня, дзякуючы мясцоваму аддзелу Беларускае Самаахховы, бандыты далёка абходзяць Дабрамысьль.

Дабрамысьль пабудаваў і адчыніў свой Беларускі Народны Дом і клюб Самааховы. У Дабрамысьлі ўрухомлена свая маленькая электрычная станцыя.

Апошнім часам пабудаваны ў Дабрамысьлі сіламі самога насельніцтва жаўнерні для Беларускае Самааховы.

Прыступіўшы ў пачатку верасьня да арганізацыі мясцовых юнацкіх дружын, Дабрамысьль здолеў у працягу аднаго месяца аб'еднаць у шэрагах СБМ 74 юнакоў і 65 юначак.

26 верасьня адбылося тут урачыстае адчыненьне мясцовага аддзелу СБМ. Урачыстасьць была палучана з фытаваю лятарэяй на карысьць Чырвонага Крыжу, якая прынясла 30.000 рублёў даходу. Рэчы на лясаваньне ахна фанты ахвяравала мясцовае насельніцтва.

Зьмяніўся й выгляд Самааховы. Сяньня Самаахоўцы ўсе апрануты ў чорныя шынелі, на якіх бел-чырвона-белыя наплечнікі і адзнакі на каўнярох. Папулярнасьць Самааховы ў ваколіцы штораз вялікшая. Быць самаахоўцам — гэта гонар кожнага маладога дзяцюка.

## Застравечча

### Дажынкі ў Застравеччы

Застравечча — найболей высунуты на паўдзённы ўсход валасны цэнтр Клецкага павету. Дарма, што мясьціна гэтая закінута ў ваколіцу лясоў, тут ідзе нармальным парадкам грамадзкае жыцьцё. Гэта зьяўляецца заслугай беларускае адміністрацыі й беларускае паліцыі. Здысцыплінаваная й сьведамая паліцыя на чале з сваім дзейным камандантам сп. Наумчыкам стаіць на варце парадку гэтае часткі Клеччыны.

10 кастрычніка г.г. у Застравеччы адбылося сьвяткаваньне традыцыйных «Дажынак». На сьвяткаваньні прысутнічаў старшыня Клецкага павету й прадстаўнік гаспадарчае Камандантуры. Урачыстасьць дажынак адбылася ў памешканьні Застравецкае школы і складалася з прамовы паветавага старшыні ды багатае мастацкае самадзейнасьці, падрыхтаванае вучнямі й моладзьдзю. Спэцыяльнай увагі заслугоўвае хор моладзі пад кіраўніцтвам сп. Кучынскага — настаўніка мясцовае школы,— які выканаў рад беларускіх народных песьняў. Вучні мясцовае школы паказалі таксама, што да ўрачыстасьці рыхтаваліся паважна. У дажынкавых урачыстасьцях брала ўдзел мясцовая паліцыя. Парадным маршам з ваяцкай песьняй, прайшлі беларускія паліцыянты вуліцамі Заастравечча, а словы іх песьні гулкім рэхам нясьліся панад восенскай нівай і казалі, што «Жыве Беларусь»!

Г. К.

## Рыга

### ЧАСАПІС «ОСТЛЯНД» АБ КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЬЦІ Ў БЕЛАРУСІ

Месячнік «Остлянд», які выдае ў Рызе Райхскамісарыят Остлянду, увайшоў сёлета ўжо ў другі год працы.

У № 1-ым за другі год гэты часапіс зьмясьціў чародны артыкул старшыні Беларускага Аб'еднаньня, сп. К. Езавітава, пад назовам «Беларускі тэатр.»

Апрача вялікіх артыкулаў і нарысаў, часапіс «Остлянд» у кажным сваім нумары зьмяшчае фатаграфіі з беларускага сучаснага жыцьця й кароткія агляды аб беларускім культурным жыцьці ў Менску і наагул на Беларусі.

## Варшава

На становішчах Праваслаўнай Царкоўнай Камісыі пры Беларускім Камітэце ў Варшаве адбыліся наступныя пэрсанальныя перамены: на месца адыйшоўшага Старшыні Камісыі інж. Ал. Шылы выбраны Др. Антон Краскоўскі, ягоным заступнікам — сьвятар Пётра Сарока. Новым сябром Камісыі зьяўляецца праф. Васіль Літвінчук, — кіраўнік Беларускай Школы ў Варшаве.

---

Пастановай Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзяніса — царкоўным старастам Беларускага Прыходу назначаны інж. А. Шыла.

---

### БЕЛАРУСКІ СЬВЯТАР ЗАКОНАВУЧЫЦЕЛЕМ СЯРЭДНІХ ШКОЛАЎ У ВАРШАВЕ

Згодна з пастановай Варшаўскай Духоўнай Кансысторыі, зацьверджанай праз Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзяніса, законавучыцелем у Варшаўскіх сярэдніх школах (г. зв. гімназыях) назначаны айцец Пётра Сарока, Беларус, вікарны сьвяшчэньнік Беларускага Праваслаўнага Прыходу ў Варшаве.

---

### ПРЫЕЗД ЯПІСКАПА БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКВЫ Ў ВАРШАВУ

Дня 16-га кастрычніка гг. прыехаў у Варшаву, па дарозе ў Вену, Найасьвяшчэньнейшы Бэнэдыкт, Архяпіскап Беластоцкі й Горадзенскі. Як ведама, Найасьвяшчэньнейшы Бэнэдыкт, як экзарх Беластоцка-Горадзенскі, належыць да складу Сабору Япіскапаў Беларускай Праваслаўнай Царквы.

---

### БЕЛАРУСКІ ПРЫХОД У ВАРШАВЕ

Беларускі прыход у Варшаве рыхтуецца да ўрачыстага адсьвяткаваньня свайго парафіяльнага сьвята ў дзень 21. лістапада (4-га сьнежаня нв. ст.) гг. У багаслужэньні прадбачыцца ўдзел Блажэньнейшага Мітрапаліта Дзяніса.

---

### ІМЯНІНЫ БЛАЖЭНЬНЕЙШАГА МІТРАПАЛІТА ДЗЯНІСА

Дня 16-га кастрычніка гг. Беларускае Царкоўнае Брацтва сьв. Юрага Беларускі Праваслаўны Прыход і гадунцы беларускай нацыянальнасьці ў Варшаўскай Духоўнай Сэмінарыі злажылі разам з прадстаўнікамі йншых праваслаўных нацыянальнасьцяў у Варшаве такжа свае найшчырэйшыя пажаданьні Дастойнаму Саленізанту — Блажэньнейшаму Мітрапаліту Дзянісу ў дзень Яго Ангела.

## Нямеччына

### БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

У аднэй із вялікіх фабрыкаў сярэдняй Нямеччыны, на скраю невялікага мястэчка згрупавалася 230 хлопцаў-беларусоў з Віцебшчыны, Бабяуйшчыны, часткова і з Меншчыны, і вось для іх нямецкія ўлады пастанавілі зарганізаваць беларускую школу давучаньня.

Запрошана беларускіх настаўнікаў, і сяньня школа сталася ўжо рэчаіснасьцю.

Школа мае заданьне даць агульную беларускую асьвету сваім вучням-работнікам фабрыкі і да таго даць ім адумысловую тэхнічную адукацыю, спачатку выкіроўваючы іх на майстроў, а пасьля — тэхнікаў.

Школа мае пакуль што толькі адзін курс, на якім выкладаюць 5 беларускіх настаўнікаў. Вучні маюць ад 15 да 18 гадоў.

Цяпер у гэтай фабрыцы зарганізованы замежны зьвяз Саюзу Беларускай Моладзі, да якога ўваходзяць усе 230 чалавек юнакоў беларусоў.

Беларуская моладзь атрымала свае юнацкія мундзіры і праходзіць цяпер першую юнацкую падрыхтоўку.

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

## Да песень

На што вас, песьні, я складаю,
згасаючы ў нямой цішы?
Нікога сёньня я ня маю,
пагаварыць каб ад душы.

Я скуты ў цёмным сутарэньні,
я загараюся агнём!
Ды думы ўсе і ўсе імкненьні
тут робяцца дарэмным тлом...

Так кожны дзень бясьсільна б'юся,
у галаве страшэнны тлум:
ніхто з радзімай Беларусі
не прачытае маіх дум...

Нашто-ж вас, песьні, я складаю?
Няхай вас спаляць пяруны!
А я хацеў-бы каля гаю
зыйсьці хутчэй у курганы...

Менск, турма. 1937 г.

## Сталін на трыбуне

Народ крычыць: ура! ура! —
задаваленьне ў гомне народным.
Вялікага правадыра
народ гукае «бацькам родным».

Ён у вачох — нібы кумір,
ад дворніка і да паэта.
На ўсё з трыбуны «правадыр»
глядзіць, як уладар сусьвета.

Глядзіць, як збаўца ўсіх нягод,
і думае, што пакарыў фартуну.
Таго-ж ня знае, што народ
скрышыў-бы ўшчэнт яго, трыбуну!

Менск, турма. 1937 г.

---

ку Валынцы, на рацэ Дрысе ў маёнтку Забельскіх-Шчытоў.

Хатнія гутаркі, а таксама дзіцячыя гульні ўсіх дзяцей сямейкі Вярыгаў вяліся выключна ў беларускай мове. У Забельскай гімназыі таксама моцна адчувалася беларуская стыхія. Гэта якраз у Забельскай гімназіі працавалі ксяндзы-пэдагогі Морашэўскі і Цяцерскі, якія пісалі школьныя п'есы для гімназіцыйных вучнёўскіх тэатральных пастановак і пакінулі нам цэлы зборнік беларускіх інтэрмэдый 18-га стагодзьдзя, што складзены былі гэтымі вучыцелямі й ставіліся на сцэне вучнямі Забельска йгімназіі.

Ня дзіва, што Ігнат Дарэўскі-Вярыга меў нахіл да ўсяго беларускага й, па сканчэньні ў 1835 годзе гімназіі, а можа быць яшчэ і на вучнёўскай лаўцы, узяўся за пісаньне вершаў у беларускай мове. Жыў і працаваў ён у Віцебску, дзе быў урадоўцам у Камісіі, што пераглядала шляхэцкія справы. Праз 10—15 гадоў ён ужо набыў сваймі вершамі гэткі вялікі аўтарытэт у грамадзтве, што беларуская інтэлігэнцыя таго часу называла яго — «Беларускі Дудар», а часамі і — «Наддзьвінскі Дудар».

Арцём Дарэўскі-Вярыга напісаў шмат беларускіх вершаў, але яны або загінулі, або былі забраны паліцэйскімі ўладамі падчас ягонага арышту 6-га траўня 1863 году. Біограф А. Вярыгі, беларускі публіцыст і гісторык Даніла Васілеўскі, у кніжцы часопісу «Полымя» за чэрвень месяць 1929 году ў артыкуле сваім «Арцём Ігнатавіч Вярыга і яго літаратурна-грамадзкая чыннасьць», выказвае думку, што рукапісы твораў Вярыгі магчыма было-б знайсьці ў справах «Асобнай Віцебскай сьледчай камісыі 1863 году» у Віцебскім архіве. У тымжа артыкуле рашуча падтрымоўвае ён думку аб тым, што паэма «Тарас на Парнасе» належыць пяру А. Вярыгі.

Калі й дзе напісана была паэма «Тарас на Парнасе» — вестак яшчэ ня маем. Магчыма, што яна была напісана А. Вярыгаю яшчэ ў 40-х або 50-х гадох у Віцебску, бо вёска «Пуцявішча», якая ўспамінаецца напачатку паэмы, знаходзіцца ў 15 кіляметрах ад Віцебску, у Жэрабіцкай воласьці, і была ў часы Вярыгі добра вядома віцябчыком, бо тутака ў 40-х гадох была сельска-гаспадрчая дасьледчая станцыя. Ня выключана аднак і тое, што паэма была напісана ў Іркуцку, адкуль яе мог пераслаць на бацькаўшчыну сам аўтар з якой-колечы асобай, або ў 1885 годзе прывёз яе на Беларусь звольнены з катаргі і высылкі Андрыян Маркс. Сам Ігнат Дарэйскі-Вярыга ўжо не пабачыў сваёй бацькаўшчыны, бо ў 1884 годзе ён памёр і пахаваны ў Іркуцку.

Паэма «Тарас на Парнасе» адыграла значную ролю ў беларускай літаратуры. Зьяўляецца яна сатырай на тых паэтаў, якія, атрымаўшы клясычную асьвету ў гімназіях таго часу, накіроўвалі ўсю сваю творчасьць на апісаньне клясычных пэрсанажаў багоў і гэрояў, аб якіх пісалі старадаўнія грэцкія паэты й пісьменьнікі, але ў існаваньне якіх ужо ніхто ня верыў у часы па-хрысьціянскія. А. Вярыга ў сваёй паэме зрабіў дзеючымі асобамі таксама багоў грэцкага Олімпу, але падаў ім характэрны выгляд і быт беларускага сялянства. Гэтым ён прадоўжываў тую працу, якую распачаў у нашай літаратуры палкоўнік Ровінскі сваёй «Энэідай», і гэтым ён зрабіў сваю паэму асабліва цікавай для беларускай інтэлігэнцыі таго часу, якой асабліва падабалася нязвычайнасьць шаржыроўкі парнаскіх багоў і сьвежасьць усяго сюжэту паэмы.

Паэма складаецца з 15 песьняў розных памераў: найкарцейшая XI песьня складаецца ўсяго з трох чатырох-радковых строфаў, гэта значыць, ўсяго з 12 радкоў, а найдаўжэйшая XIII-я песьня складаецца з васьмі строфаў, г. зн. з 32 радкоў. Ува ўсіх 15 песьнях ёсьць 76 строфаў ды яшчэ 2 строфы канчатковых, а ўсяго 78 строфаў з 312 радкамі.

Гэрой паэмы — беларускі палясоўшчык Тарас. Ён дужа старанна пільнаваў лес і за гэта карыстаўся агульнай пашанай. Аднойчы ён «пасьля першых пятухоў» выправіўся ў свой ранішні абход лесу. У перадрасьветным змроку ён спаткаўся ў лесе з вялікім мядзьведзем, напалохаўся і, скочыўшы ўбок, трапіў у нейкую яму, якая вяла на той сьвет: «Доўга ляцеў уніз Тарас, пакуль праляцеў праз зямлю на «той сьвет» і зваліўся тамака на дно. На «тым сьвеце» аказалася дужа багатая й прыгожая прырода, шмат кветак і птахаў. Тарас зьдзіўлена прыглядаўся й раптам ўбачыў крылатага хлопчыка, бога каханьня Амура. Шпарка ляцеўшы, Амур толькі й пасьпеў сказаць Тарасу, што ён знаходзіцца на дарозе з «таго сьвету» на Парнас. Тарас ня ведаў, што Парнасам называлі грэкі гару, на якой нібыта жылі іхнія багі, а таксама й паэты пасьля іхняй сьмерці. Накіраваўшыся да Парнаса, ён угледзіў вялікую гару, на якую навыперадкі лезьлі розныя паны з нейкімі кніжкамі. Праз гэты натоўп літаратараў, як птушкі праляцелі на Парнас чатыры паэты — Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі й Гогаль. Сьледам за імі праціснуўся і ўзьлез на гару й Тарас. Там ён убачыў акружаны яловым тынам добры новы двор, наўкол якога й у якім йшло звычайнае вясковае жыцьцё: хадзілі сьвіньні, козы, бараны, сабакі, гулялі дзеці. У хаце аказалася шмат багоў і багіняў, якія займаліся звычайнымі сялянскімі хатнімі работамі, за выключэньнем Марса й Гэркулеса, якія біліся, каб пацешыць старога Зэвеса.

Апісаньні прымітыўнага какецтва Вэнэры, хлапецкіх жартаў Амура, а затым абеду і ежы багоў ды пасьляабедзенных танцаў напоены вясёлым гумарам і зьяўляецца яркім малюнкам таго «багатага жыцьця», якое нават заможнейшы з беларускіх сялянаў можа сабе дазволіць толькі ў гэткіх выключных здарэньнях як вясельле.

Напісаная прыгожай народнай мовай Віцебшчыны паэма «Тарас на Парнасе» крысталася вялікім, посьпехам у беларускай інтэлігэнцыі 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя, а таксама й у першыя два дзесяцігодзьдзя XX стагодзьдзя пакуль належыта не разьвілася новая беларуская літаратура.

Пасьля першага выданьня ў 1889 годзе ў газэце «Минский Листок», паэма ў 1890 годзе была перадрукавана ў газэце «Смоленский Вестник», затым у 1896 годзе ў газэце «Витебские Губернские Ведомости», затым у тымжа 1896 годзе выйшла асобнай адбіткай у Віцебску; потым праз два гады паэма зноў выйшла асобнымі кніжыцамі ў Віцебску, Горадні й Магілёве. У дзесятках тысячаў экзэмпляраў разыйшлася яна, перапісанаю ад рукі. Тысячы гімназістаў, сэмінарыстаў, каморнікаў, вучыцялёў, пісароў, афіцэраў і чынавенства ведалі яе напамяць. Значэньне гэтае паэмы для ўзгадаваньня нацыянальнае сьвядомасьці нашае беларускае інтэлігэнцыі было аграмадным. Яна адна зрабіла больш, чым усе нашы паэты XX стагодзьдзя.

Нават інтэлігэнцыя іншых нацыянальнасьцяў, пражываўшая на Беларусі, часта-густа вывучала ўсяго «Тараса на Парнасе» напамяць і нам, латвійскім беларусом, на працягу 25-гадоў, ад 1919 па сёлетні 1943 год, даводзілася спатыкаць у Рызе, Дзьвінску і Лібаве цэлы рад латыскіх каморнікаў, нотараў і вучыцеляў, якія з вялікай ахвотай, а нават і з нейкім нечаканым юнацкім запалам дэманстравалі сваё веданьне беларускае мовы, добра дэклямуючы даўгія ўрыўкі з гэтае папулярнае й несьмяротнае беларускае паэмы.

